*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 16 (702) 27 КРАСАВІКА 2005 г.

# *Хрыстос уваскрос!*

## *Сапраўды ўваскрос!*







Сёлета "Белпошта" выпусціла вялікую колькасць прыгожых вялікодных беларускамоўных паштовак, як тое і павінна быць у незалежнай краіне.

# У Менску адбылася Рада ТБМ

24 красавіка ў Менску адбылася Рада ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны", якая разгледзела бягучыя пытанні жыцця і дзейнасці Таварыства. Рада прыняла дзве пастановы і зварот "10 гадоў няспыннага змагання".

### *Пастанова Рады ТБМ імя Ф. Скарыны "Аб скліканні чарговага IX з'езду ТБМ"*

**Рада ТБМ пастанаўляе:**

1. Склікаць чарговы IX з'езд ТБМ у г. Менску **30 кастрычніка 2005 года.**
2. Дэлегатаў на з'езд вылучаюць рэгіянальныя арганізацыі, якія стаяць на ўліку ў мясцовых органах улады па наступных квотах:
   - Менская гарадская арганізацыя - 30 чалавек.
   - Абласныя арганізацыі - 5 чалавек ад кожнай.
   - Гарадскія і раённыя арганізацыі (і суполкі): да 50 чалавек - 1 дэлегат, ад 51 да 100 чалавек - 2 дэлегаты, ад 101 чалавека і болей - 3 дэлегаты.
3. Суполкі і арганізацыі, якія не стаяць на ўліку ў мясцовых органах улады, вылучаюць па адным паўнамоцным прадстаўніку з правам дарадчага голасу.
4. Па-за квотай рэгіянальнымі структурамі вылучаюцца на з'езд у якасці дэлегатаў сябры Рады ТБМ і Рэвізійнай камісіі.
5. Даручыць сакратарыяту ТБМ вызначыць час і месца правядзення з'езду.

### *Пастанова Рады ТБМ імя Ф. Скарыны "Аб зняцці з уліку ў мясцовых органах улады структураў Таварыства, зарэгістраваных у жылых памяшканнях"*

У сувязі з пісьмовым папярэджаннем Міністэрства юстыцыі № 06-11/210 за 16.02.2005 г. і рашэннем Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь ад 7 красавіка 2005 г., паводле якога Радзе ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" было адмоўлена ў задавальненні скаргі на вынесенае пісьмовае папярэджанне, **Рада ТБМ пастанаўляе**:

1. Звярнуцца ў мясцовыя органы ўлады да 1 чэрвеня 2005 г. з прапановай аб зняцці з уліку суполак ТБМ, зарэгістраваных у жылых памяшканнях: **Бешанковіцкай**, **Смілавіцкай** гарпасялковай суполак, **Клецкай** раённай арганізацыі, **Завадской** раённай арганізацыі г. Менска.
2. Закончыць да 27 траўня 2005 г. пастаноўку на ўлік у мясцовых органах улады па новых юрыдычных адрасах, размешчаных у нежылым фондзе, наступным аргструктурам ТБМ: **Гарадзенскай**, **Лідскай**, **Асіповіцкай** раённым арганізацыям, **Шклоўскай** і **Слонімскай** суполкам, **Барысаўскай** гарадской арганізацыі ТБМ.

# Алесю Петрашкевічу - 75



1 траўня спаўняецца 75 гадоў з дня народзінаў Алеся Петрашкевіча, беларускага пісьменніка, драматурга, публіцыста, сябра Сюза беларускіх пісьменнікаў і сталага сябра рэдкалегіі "Нашага слова".

П'есы Алеся Петрашкевіча, змешчаныя ў кнігах "Воля на крыжы" і "Здрапежаная зямля" ўяўляюць сабой кароткі курс грагічнай гісторыі Беларусі ў асобах і дыялогах. Балючы роздум герояў твора і аўтара працягваецца і ў новых п'есах Алеся Петрашкевіча, прысвечаных востранадзённым нацыянальным праблемам, якія разглядаюцца у непасрэднай сувязі з гістарычнымі падзеямі: "Дагарэла свечачка", "Прагноз на паслязаўтра", "Інтэлігенты", "Інтэрнацыянал па-беларуску". І калі ранейшыя п'есы Алеся Петрашкевіча ішлі амаль у 70 тэатрах былога СССР, у тым ліку і ў Беларусі, перакладаліся на рускую, украінскую, латышскую, эстонскую ды іншыя мовы, то апошнія па часе напісання асмеліліся апублікаваць толькі газета "Наша слова".

*(Пра А. Петрашкевіча чытайце на ст. 2.)*

***Сёлета пры правядзенні тэставання павялічаны час для выканання тэставага задання па рускай мове. Час для выканання тэставага задання па беларускай мове застаўся без зменаў. У сувязі з гэтым ТБМ зрабіла запыт у Міністэрства адукацыі і атрымала адказ наступнага зместу***

| | |
|---|---|
| МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ | МИНИСТЕРСТВО ОБРАЗОВАНИЯ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ |
| Упраўленне агульнай сярэдняй адукацыі | Управление общего среднего образования |
| АКПА 00027626 вул. Савецкая, 9 | ОКПО 00027626 ул. Советская, 9 |
| 220010, г. Мінск, тэл. 226 51 59 | 220010, г. Минск, тел. 222 68 48 |
| факс (017) 200 84 83 | |

**Грамадскае аб'яднанне**
**"Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"**

У сувязі з Вашым пісьмом упраўленне агульнай сярэдняй адукацыі паведамляе наступнае.

У час правядзення пробнага тэставання па беларускай мове ў лістападзе 2003 года разам з іншымі паказчыкамі правяралася колькасць часу, неабходная для выканання поўнага варыянта тэсту. Такім чынам быў вызначаны час у 110 хвілін.

У тэстах па рускай мове ў 2005 годзе экспертамі ўведзена заданне, якое дазваляе праверыць у абітурыентаў сфармаванасць некаторых камунікатыўных навыкаў і выканаць якое магчыма толькі на тэксце вялікага аб'ёму, што, зразумела, патрабуе дадатковага часу.

Стуктура тэставых матэрыялаў па беларускай мове ў 2005 годзе не мянялася, таму і падставы для павелічэння або змяншэння часу на выкананне тэсту няма.

**Начальнік упраўлення агульнай сярэдняй адукацыі У. К. Шчэрба.**

| | | |
|---|---|---|
| Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт |  | Минский городской исполнительный комитет |
| КАМІТЭТ АРХІТЭКТУРЫ І ГОРАДАБУДАЎНІЦТВА | | КОМИТЕТ АРХИТЕКТУРЫ И ГРАДОСТРОИТЕЛЬСТВА |
| 220050, г. Мінск, вул. Савецкая, 19 | | 220050, г. Минск, ул. Советская, 19 |

№ 14-08-1476 ад 21.04.2005 г.
На № ___ от "__" ___ 200 _ г.

**Грамадскае аб'яднанне**
**"Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"**
**220034, г. Мінск, вул. Румянцава, 13**

Камітэт архітэктуры і горадабудаўніцтва па даручэнні кіраўніцтва Мінгарвыканкама разгледзеў ваш зварот адносна выкарыстання беларускай мовы пры афармленні вонкавай рэкламы з улікам даследавання прафесара Вячаслава Рагойшы.

З мэтай знаёмства з парадкам узгаднення і размяшчэння вонкавай рэкламы у г. Мінску прапануем накіраваць вашага прадстаўніка для удзелу у бліжэйшым паседжанні рэкламна-мастацкага савета, якое павінна адбыцца 11. 05. 2005 г. па адрасу: вул. Гурскага, 38.

**Начальнік упраўлення добраўпарадкавання і гарадскога дызайну А. І. Андрончык.**

# СЛУЖУ БАЦЬКАЎШЧЫНЕ...

## Штрыхі да творчага партрэта Алеся Петрашкевіча

"Жыву па прынцыпе: службы толькі Бацькаўшчыне – і ніколі не памыліўся", - такое жыццёвае крэда Алеся Петрашкевіча пацвярджаецца ўсёй творчасцю гэтага выдатнага пісьменніка-энцыклапедыста, драматурга, празаіка, публіцыста. Пацвярджаецца і грамадзянскай пазіцыяй чалавека, дзяцінства якога было абпалена вайной, а духоўнае сталенне адбывалася ў складаных і супярэчлівых умовах савецкай улады, калі здольны сялянскі хлопец змог дайсці амаль да вяршыняў гэтай улады, але і застацца беларусам, патрыётам сваёй Айчыны у найвышэйшым сэнсе гэтага слова, шчырым і паслядоўным абаронцам роднай мовы, нацыянальнай культуры, гісторыі.

А нарадзіўся Алесь Лявонавіч Петрашкевіч 1 траўня 1930 года ў вёсцы Пярэвалачня Талачынскага раёна, якая ўпамінаецца ў дакументах з 1552 года. "І стаіць яна, - па словах пісьменніка, - на самым бугры паміж Чорным і Балтыйскім морамі, на бойкай некалі пуцявіне "з варагаў у грэкі". Паблізу ад гэтай пуцявіны талачане, талачынцы талакою ладзілі ладдзі і стругі, а пярэвалачане пераваloквалі іх з вярхоўя Друці ўверх па Крывой да пачатку Усвейкі, каб яны далей пад ветразямі ды на вёслах морам Усвіж-Букскім плылі да Рубона-Эрыдана - Заходняй Дзвіны, а па яе плыткай вадзе самацёкам уніз ў іншы далёкі і нязведаны свет..." У нядаўна напісанай успамінальнай сваёй кнізе "Крыніцы і каламуць" пісьменнік з нязменнай любоўю да роднага кута апіша Пярэвалачню, якая ў наш непрадказальны час ператворыцца ў "Перевалочный", раскажа пра бацьку Лявона Іванавіча /загінуў у 1941/, маці Марыю Іванаўну, нястомную калгасную працаўніцу, пра сваіх аднавяскоўцаў так, што праз іх лёсы яскрава праглядваецца лёс усёй шматпакутнай Беларусі.

Прашчуры роду Петрашкевічаў належалі да шляхецкага стану са старажытным гербам "Лебедзь", якім у Вялікім Княстве Літоўскім карысталіся многія шляхецкія сем'і.

Далёкая і блізкая гісторыя свайго роду, жывыя крыніцы роднай вёскі, якая сёння, як і тысячы вёсак Беларусі, перажывае нялёгкія часы, гісторыя Бацькаўшчыны будуць увекавечаны Алесем Петрашкевічам у шматлікіх творах, а пакуль будучы пісьменнік пасля сярэдняй школы паступае ў Менскі юрыдычны інстытут. Аднак юрыстам не стане, бо яшчэ студэнтам-практыкантам добра усвядоміць сэнс народнай прымаўкі: "Закон, што дышла..." і падасца абараняць кандыдацкую дысертацыю па гісторыі Беларусі. Аднačасна амаль 17 гадоў давялося Алесю Петрашкевічу працаваць спачатку ў ЦК камсамолу, затым у ЦК партыі. Гэта дало магчымасць назіральнаму, улумліваму маладому чалавеку бачыць жыццё з вяршыні ўладнай піраміды. Але змог ён не ачарсцвець душою, не ператварыцца ў чыноўніка, бяздумнага выканаўцу вышэйшых загадаў, не стаць чалавекам для "внутреннего употребления", "балваншчыкам", які піша "балванку" для даклада начальніка, а спрабаваць асэнсоўваць шматлікія праблемы ў сваіх першых артыкулах, фельетонах, памфлетах, нарысах. Ранні перыяд творчасці Алеся Петрашкевіча супаў з выкрыццём культу асобы, хрушчоўскай адлігай. У літаратуры ў гэты час паступова пачынае пераадольвацца так званая "тэорыя бесканфліктнасці", па якой лічылася, што ў савецкім грамадстве канфлікты калі і бываюць, то толькі паміж добрым і выдатным, і таму было накладзена табу на праўдзівую літаратуру, як сатырычныя жанры, ваяўнічы тэатр за тую ж праўду-справядлівасць, гістарычную тэматыку. З другой паловы 50-х гадоў у рэспубліканскіх і саюзных газетах з'яўляюцца фельетоны Алеся Петрашкевіча, пад псеўданімам А. Аляксееў /"Анонім", "Абы ціха", "Патент на пошлость", "О "пшене". "лабудзе" і этике" і інш./, а разам з імі і аптымістычныя артыкулы накшталт "По жизни победно шествует новое". Аднак у хуткім часе, назіраючы, як са сцен кабінетаў ЦК здымалі партрэты правадыроў, зносілі іх у падвал, як пазней вынасілі партрэт самога Хрушчова разам з ягонай адлігай, малады аўтар зразумеў, што працягваецца гвалтаванне шматмільённага народа нягледзячы на абяцаны Хрушчовым камунізм, уладу захапіў новы Ільіч. Ужо тады ў душы пісьменніка пахіснулася вера ў кампартыю, /як некалі ў савецкую юрыспрудэнцыю/, у яе кіраўнічую вертыкаль. І з гэтай сістэмы няма пакуль што выйсця і па сённяшні дзень. Таму заўсёды было і будзе – кожнаму сумленнаму творцу застаецца адна магчымасць, адна зброя ў барацьбе за лепшую долю Бацькаўшчыны – праўдзівае мастацкае слова. У Алеся Петрашкевіча гэтае слова вылілася ў драматургічныя жанры. Так у другой палове 60-х – 70-я гады з'яўляюцца яго першыя камедыі: "Адкуль грэх", "Злыдзень", "Укралі кодэкс", драма "Трывога", якія, замацоўваючы публіцыстычны і сатырычны пафас шматлікіх артыкулаў і фельетонаў, вызначылі асноўную праблематыку ранняга перыяду творчасці драматурга. Яго хвалявалі не толькі востранадзённыя пабытовыя праблемы тагачаснага жыцця, якія, на вялікі жаль, актуальныя і сёння: распад маральных устояў, бюракратызм, сябялюбства кіраўнічага чынавенства, падхалімства, халуйскае слугаванне ніжэйшых вышэйшым, п'янства, абыякавасць, але і тыя агульнаназначныя сацыяльныя пытанні, што залежалі ад пануючай сістэмы наогул. Выкрываючы і асуджаючы розных прайдзісветаў, жулікаў, махінатараў, якія існавалі па прынцыпу нажывы любой цаной, любымі сродкамі, супрацьстаўляючы іх простым, сумленным працаўнікам, аўтар імкнецца даследаваць глыбінны ўнутраны свет сваіх герояў, неадназначнасць іх духоўнага патэнцыялу. Паказальнай у гэтых адносінах з'яўляецца сатырычная камедыя "Злыдзень" – адна з лепшых камедый маладога драматурга, якую высока ацэньваў Кандрат Крапіва. Алесь Петрашкевіч, прытрымліваючыся традыцыйнага для беларускай мастацкай літаратуры прынцыпу "чалавек – гэта цэлы свет", канцэнтруе ў вобразах сваіх герояў самыя разнастайныя рысы. Дзеля высвятлення і больш поўнага раскрыцця іх духоўнага патэнцыялу пісьменнік **умела выкарыстоўвае цікавы** і арыгінальны мастацкі прыём – раздваенне асобы. Такія метамарфозы чамусьці найчасцей адбываюцца з тымі, хто займае хоць нейкую чыноўніцкую пасаду, у іх душы адразу ўсяляецца злыдзень, які рэгламентуе ўсе іх учынкі, службовыя паводзіны, адносіны да людзей, іх запатарбаванні. І сядзяць яны ў сваіх аддзелах "чуласці", "спагадлівасці", "перастрахоўкі", маюць адпаведныя прозвішчы (Самасейкін, Яснотка, Бряняйбоны, Дзюркіна), але нічога не вырашаюць, ганяюць наведвальнікаў з кабінета ў кабінет па розныя даведкі, якія патрэбныя толькі самім чыноўнікам дзеля перастрахоўкі на ўсялякі выпадак. Сістэма, заснаваная на страху, няпэўнасці, нечаканасцях, бяздумным падпарадкаванні вышэйшаму начальству, ператварала іх у бесчалавечных бюракратаў, што імітуюць бурную дзейнасць і страшэнную занятасць. Усе прыёмы сатырычнага жанру, удала выкарыстаныя аўтарам, садзейнічалі доказнаму абгрунтаванню канфліктаў, глыбокаму раскрыццю вобразаў і праблематыкі твору. І нездарма першыя камедыі маладога драматурга былі адразу пастаўлены ў многіх тэатрах былога Саюза, атрымалі прэміі на Рэспубліканскім і Усесаюзным конкурсах на лепшую сатырычную камедыю.

Сцэнічны поспех камедый Алеся Петрашкевіча быў цалкам апраўданым і заканамерным, творчы патэнцыял аўтара раскрываўся і паглыбляўся далей, як у тэматычна-праблемным, так і ў жанрава-стылёвым кірунку. Ён піша драмы "Соль", "Мост упоперак ракі", дзе ў цэнтры ўвагі аўтара праблемы экалогіі, духоўнасці, пошукі ісціны, шляхоў еднасці ў абароне адвечных нацыянальных каштоўнасцяў, распрацоўвае жанр п'ес-фантасмагорый ("Куды ноч, туды сон", "Крыж святой Еўфрасінні", "Катастрофа розуму", "Памінкі"). Звяртаецца да тэмы вайны ў трагедыі "Злавесная рэха" і біяграфічнай драме "У спадчыну – жыццё", піша сцэнар /з У, Халіпам/ пяцісерыйнага фільма "Час выбраў нас", тэлеспектакля пра Францішка Скарыну мастацкага фільма "Уваскрэсная ноч"/ па п'есе "Трывога"/ "Прарок для Айчыны", стварае лібрэта оперы "Новая зямля" па паэме Якуба Коласа, піша аўтабіяграфічныя апавяданні з ваеннага і пасляваеннага жыцця сваіх аднавяскоўцаў, блізкіх людзей /"Песня", "Засада", "Інфаркт", "Табака", "Матруна", "Памылўся"/. З пачатку 90-х гадоў Алесь П6етрашкевіч змяшчае ў часопісе "Вожык" цыкл фельетонаў пад псеўданімам – Алесь Тутэйшы, якія мелі востранадзённы, "перабудовачны" характар. ("Дзеці Чарнобыля і сучкіны дзеці", "Годзе Вам, панове", "Гуманітарная бульба", "... і плясь цару ў морду...", "Шопінг для тутэйшых альбо наказ будучаму прэзідэнту", "Падымі козыр", "Цырк на дроце", "Я не так глуп, как вы мне кажетесь...", "І ў Мінску пасвінску", "Людцы, схамяніцеся!", "Пра донараў і доянаў", а з фельетона "Як мы сябе пачуваем" вырасла аднайменная трагікамедыя.

Працягваў пісьменнік пісаць інсцэніроўкі па творах іншых аўтараў "Ладдзя роспачы" /відовішча ў двух дзеях паводле У. Караткевіча/, "Шырокія масы ў вузкім закутку" /замалёўкі з беларускае натуры паводле аповесці У. Ліпскага "Аўцюкоўцы"/, "Над Дзяржавай – знак Пагоні" / гістарычная драма паводле рамана Г. Далідовіча "Кліч роднага звона"/, былі напісаны літаратурныя сцэнарыі гістарычна-дакументальных фільмаў "Гетман найвышэйшы" пра Канстанціна Астрожскага і "Францішак, сын Скарынін".

Мастакоўскія пошукі паступова прывялі пісьменніка да галоўнай тэмы ў яго творчасці – гістарычнай, да якой ён падступаўся ўжо ў 80-я гады. Аўтара прывабліваюць постаці вялікіх нашых дзеячаў, асветнікаў, падзеі далёкай і блізкай гісторыі /першая п'еса гістарычнай тэматыкі "Напісанае застаецца" - пра Ф. Скарыну была напісана ў 1979 г.

Глыбіннай зацікаўленасці гісторыяй Бацькаўшчыны паспрыяла некалькі фактараў. Найперш, безумоўна, добрае веданне сучаснага жыцця. Перажытае ім самім у ваенныя, пасляваенныя гады, лёс блізкіх, аналітычна-крытычнае стаўленне да пануючай таталітарна-бюракратычнай сістэмы, якая ствaрала многія праблемы для нацыянальнага развіцця беларусаў. Немалую ролю адыграла праца Алеся Петрашкевіча загадчыкам аддзела культуры ЦК КПБ, калі даводзілася займацца захаваннем, абаронай, аднаўленнем помнікаў культуры, гісторыі Беларусі.

Але галоўнае – пісьменнік больш чвэрці стагоддзя працаваў у Беларускай Энцыклапедыі, больш таго, быў разам з П. Броўкам яе заснавальнікам, адказным сакратаром, намеснікам галоўнага рэдактара.

Колькі давялося перачытаць, пералапаціць матэрыялаў па самых розных галінах ведаў-гісторыі, літаратуры, культуры, мастацтву дзеля стварэння першай Беларускай Энцыклапедыі і найперш канцэпцыі выдання. А гэтым займалася галоўная рэдакцыя, кола сяброў-аднадумцаў, якое, па словах Алеся Петрашкевіча, выпрацоўвала тактыку, як абыходзіць тагачасную пільную цэнзуру і адбівацца ад наменклатурных невукаў, як зрабіць найбольш поўнымі і праўдзівымі раздзелы па сярэдневеччы, па вайсковых сутычках з суседзямі, як асвятліць так званы "залаты век Беларусі", радаводы выбітных дзеячаў беларускай даўніны, нарэшце, як падаць біяграфіі рэабілітаваных дзеячаў навукі і культуры, каб чытачы хоць здагадаліся, што яны былі аблыжна абвінавачаны і незаконна рэпрэсаваны; ды ці мала што і пра каго..."

З дня ў дзень неабходна было сістэматызаваць гістарычныя звесткі, асэнсоўваць вялізарную інфармацыю, што абуджала незвычайную цікавасць, пісьменніцкую фантазію, бо знаходзіў ён у мінулым тое, што хвалявала ў сучасным. Агромністыя звесткі з далёкай і блізкай гісторыі не маглі, вядома, змясціцца цалкам у дванаццацітомнай энцыклапедыі, заставаўся вялікі пласт матэрыялу і таму Алесь Петрашкевіч выступіў з ідэяй стварэння серыі кніг "Памяць" гэту ідэю падтрымаў П. М. Машэраў. Драматург стаў кіраўніком арганізацыйна-метадычнага цэнтра гэтых гістарычна-дакументальных хронік /з 1991/.

На сённяшні дзень выйшла больш за сто дваццаць тамоў "Памяці" амаль па кожнаму раёну, дзе расказана пра лёсы тысяч знакамітых беларусаў, іх удзел у гістарычных падзеях Бацькаўшчыны. Гэта была родная стыхія для пісьменніка, крыніца ведаў, найперш гістарычных, ствараўся падрабязны летапіс народа, беларускай дзяржаўнасці. І хоць немала давялося перацярпець ад тых самых наменклатурных чыноўнікаў, пазмагацца за шырокае і праўдзівае асвятленне гістарычных падзей, аднак варта папрысутнічаць на прэзентацыі кніг "Памяці" ў тым або іншым раёне, каб пераканацца, якое гэта свята для людзей, як сапраўды абуджаюць яны памяць пра справы продкаў, гістарычнае і ваеннае мінулае, гонар за уласныя здзяйсненні. / Дарэчы сказаць, што Алесю Петрашкевічу ў ліку іншых супрацоўнікаў энцыклапедыі была прысуджана Дзяржаўная прэмія, пазней ён быў узнагароджаны медалём Ф. Скарыны, атрымаў званне Заслужанага работніка культуры Беларусі/.

Так прыйшло і сцвердзілася ўсведамленне, што ён не можа не пісаць пра гісторыю Бацькаўшчыны і павінен вяртаць яе праўдзівай, пазбаўленай ілжы, ідэалагічных напластаванняў сацрэалізму. Пісьменнік цалкам пераключаецца на жанр гістарычнай драмы і трагедыі, якіх за апошнія гады было напісана **каля дваццаці. Яны і склалі кнігі** "Воля на крыжы" /2000 г., п'есы: "Гора і Слава", "Меч Рагвалода", "Напісанае застаецца", "Прарок для Айчыны", "Воля на крыжы"/, "Здрапежаная зямля" /2003 Г./ Упершыню ў беларускай літаратуры створаны паслядоўны драматургічны летапіс тысячагадовай айчыннай гісторыі, пачынаючы ад часоў Рагвалода, Усяслава Чарадзея, эпохі вялікіх асветнікаў і святых Ефрасінні Полацкай і Кірылы Тураўскага, а таксама Францішка Скарыны і Міколы Гусоўскага да лёсу Янкі Купалы, якому было наканавана стаць прарокам у XX стагоддзі.

Кніга "Здрапежаная зямля" – цэльны, канцэптуальны твор пад адной сімвалічнай назвай – падзяляецца на дзве часткі: "Супрацьборства" і "Вынішчэнне".

Не спадзеючыся ўбачыць пастаноўку гэтых п'ес у тэатрах сённяшняй Беларусі, ці хацяў б тэлевізійную іх версію (а трэба сказаць, што ранейшыя камедыі і драмы Алеся Петрашкевіча мелі даволі шчаслівы сцэнічны лёс), параіла б усім суайчыннікам прачытаць іх, ды самім пабыць рэжысёрамі віртуальных відовішчаў па рэальных, дакументальных творах, бо яны даюць грунтоўнае ўяўленне пра нашу гісторыю, удала раскрытую таленавітым аўтарам у персаніфікаваным выглядзе і храналогіі драматычных і трагічных для лёсу беларусаў падзей...

*Лідзія Савік, прафесар.*

